*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 17 (505) | 25 КРАСАВІКА 2001 г.

# НАСТУПСТВЫ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АВАРЫІ



**Напамінам пра страшныя дні Чарнобыльскай катастрофы застаўся на цэнтральнай плошчы Брагіна манумент занінуўшым вёскам з помнікам земляку-пажарнаму Васілю Ігнаценку, першаму ўступіўшаму ў двубой з звар'яцелым "мірным" атамам.**
**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

Прайшло 15 гадоў з дня Чарнобыльскай аварыі. Час падвесці некатарыя вынікі. За гэтыя гады распаліся кароткажывыя ізатопы ёду, але наступствы іх дзеяння засталіся. У тысячы разоў павялічылася колькасць захворванняў на рак шчытападобнай залозы, адзіны паратунак ад якога – поўнае выдаленне пашкоджанай залозы і спажыванне потым на працягу ўсяго жыцця гармонаў, якія яна павінна была выпрацоўваць. Сумна, што колькасць гэтых пухлін магла быць значна меншай, калі б людзям своечасова паведамілі пра небяспеку, і яны маглі б перасцерагчыся ад паступлення радыёактыўнага ёду ў арганізм.

У нашыя дні гэтай небяспекі больш няма – ёд даўно распаўся. Што ж пагражае нам зараз? Ад чаго мы павінны берагчыся?

Па-першае, мы павінны добра ведаць карты радыяцыйнай забруджанасці Беларусі і ні ў якім разе не сяліць людзей і не весці ніякую сельскагаспадарчую дзейнасць на забруджаных тэрыторыях. Справа ў тым, што назапашаная радыёактыўнасць (у выглядзе пераважна цэзію, які будзе выпраменьваць яшчэ шмат стагоддзяў) за гэтыя гады сканцэнтравалася па большасці ў глебе на глыбіні 40-60 см. Калі не чапаць зямлю, узровень радыёактыўнасці ў паветры нават у забруджаных месцах не перавышае нормы. Але як толькі пачынаюць апрацоўваць глебу (араць, баранаваць і г.д.) радыёактыўныя часцінкі ўздымаюцца ў паветра і распаўсюджваюцца на дзесяткі кіламетраў ад гэтага поля. Дык ці варта нешта рабіць на забруджаных землях, калі яшчэ і ўсё тое, што там вырасце, нельга есці ні людзям, ні жывёле?!

Па-другое, медыкі пад час масавых абследванняў насельніцтва Магілёўскай, Гомельскай і іншых абласцей заўважылі, што выпадкі назапашвання небяспечнай для здароўя колькасці радыёнуклідаў адзначаюцца, галоўным чынам, у тых людзей (і іхніх сваякоў), хто мае дачыненне да лесу, спажывае дзічыну, ягады, грыбы з забруджаных лясоў. І яшчэ: масавыя абследванні паказалі, што сярэдні ўзровень назапашанай радыёактыўнасці ў арганізме сельскіх жыхароў вышэйшы, чым у гараджан, а сярод сялян найбольш наглыталіся радыёактыўнага бруду вясковыя механізатары. Гэта азначае, што ўсе машыны, на якіх людзі працуюць на палях Беларусі, павінны мець герметычныя кабіны.

Што датычыцца ўздзеяння малых доз радыяцыі на арганізм, то пакуль навукоўцам дакладна вядома, што непасрэдна з "чыстым" уздзеяннем радыяцыі можна звязаць, акрамя раку шчытападобнай залозы, не менш за 5-8% з'яўлення пухлін іншых тканак і органаў. Працэнт ўздзеяння малых доз радыяцыі на генетычныя пашкоджанні вызначаецца пакуль што менш дакладна. Але і ў гэтых абставінах усё не так проста! На вялікі жаль, усе гэтыя падлікі і даследванні былі праведзены ў эксперыментальных, "чыстых" умовах, а на сённяшні дзень вядома, што мноства дадатковых адмоўных фактараў, якія мы маем на Беларусі, у шмат разоў павялічваюць шкоднасць уплыву радыяцыі на арганізм.

Трэба заўсёды памятаць, што калі сярэдняя працягласць жыцця японцаў, атрымаўшых невялікую дозу абпраменьвання пад час выбуху атамных бомбаў у Хірасіме і Нагасакі, аказалася нават большай, чым у астатніх жыхароў Японіі, то гэта з'явілася вынікам больш пільнай увагі медыкаў да здароўя людзей, атрымаўшых абпраменьванне, выяўленнем хваробаў на пачатковых этапах і больш аб'ёмнай медыцынскай дапамогай гэтым людзям. Да таго ж, японцы атрымалі дозу радыяцыі толькі адзін раз і потым на працягу астатняга жыцця не спажывалі абпрамененае харчаванне, не назапашвалі радыяцыю дадаткова.

Калі ж звярнуцца да Беларусі, то неабходна адзначыць, што сярод нас усіх ёсць група, якая патрабуе асаблівай пільнай увагі медыкаў – гэта жыхары Беларусі 1968-86 гадоў нараджэння. Зараз самым малодшым з іх спаўняецца 15 гадоў, але шкодны ўплыў, які аказала радыяцыя на дзіцячы арганізм, можа яшчэ не раз адгукнуцца ў іх жыцці большай схільнасцю да хвароб, слабейшым супрацьстаяннем уздзеянню любых адмоўных экалагічных фактараў, магчымым шкодным уплывам на іх дзяцей.

На жаль, дзеці Беларусі назапашваюць радыёнукліды і зараз, праз шмат гадоў пасля Чарнобыля, з-за таго, што спажываюць "забруджаныя" радыёнуклідамі прадукты, што жывуць у вёсках пасярод "забруджаных" земляў, на якіх вядуцца актыўныя сельскагаспадарчыя работы.

Так што да таго часу, пакуль мы не забяспечым людзей харчаваннем, якаснымі, не забруджанымі радыяцыяй прадуктамі, пакуль не зможам забяспечыць усіх сучаснай медыцынскай дапамогай, не здолеем забяспечыць іх матэрыяльнымі сродкамі, дастатковымі для нармальнага з пункту гледжання медыцыны жыцця, забывацца пра Чарнобыль НЕЛЬГА!

*Ніна Капуннікава,*
*доктар біялагічных навук, Горадня.*
*16.04.2001г.*



**Гаспадары гэтага прыгажуна-дома з Чачэрска перасяленцы з Брагінскага раёна Пётр Антонавіч і Кацярына Іванаўна Музычэнкі (на здымку). Вось ужо восем гадоў жывуць яны тут і падтрымліваюць у выдатным стане свой дом.**
**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

# 26 красавіка 15 гадоў з дня Чарнобыльскай катастрофы



№ 17 (505) 25 КРАСАВІКА 2001 г. Наша слова

*Адкрыты ліст*
*заснавальніку і галоўнаму рэдактару*
*газеты "Народная воля"*
*сп. Іосіфу Сярэдзічу*

**Паважаны Іосіф Паўлавіч!**

Я даўно ведаю Вас як прыхільніка беларушчыны, актыўнага прапагандыста грунтоўных, навуковых ведаў у галіне беларускай мовы, гісторыі, архітэктуры і літаратуры.

Таму я з вялікім здзіўленнем і абурэннем прачытаў у нумары "Народнай волі" ад 17 красавіка 2001 г. матэрыял Марыны Коктыш "Ад каго і каму "Заява", дзе закранаецца гонар вядомай беларускай пісьменніцы, сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ Вольгі Іпатавай. Як высветлілася, сп. Коктыш груба парушыла журналісцкую этыку, не ўзгадніла свой матэрыял напісаны паводле тэлефоннай размовы з Вольгай Іпатавай і свядома падала некаторыя факты ў скажоным выглядзе.

Яшчэ большае абурэнне і непаразуменне выклікае надрукаваны побач "Каментар рэдакцыі", напісаны ў духу Зімоўскага ці Казіяткі.

У адносінах да кіраўніка Саюза беларускіх пісьменнікаў, вельмі паважанага, адукаванага і культурнага чалавека не этычна ўжываць такія выразы, як "начальніца пісьменнікаў" ці "пісьменніца-разумніца" ў здзеклівым тоне, бо Вольга Іпатава ў адрозненне ад шмат каго -- сапраўды Разумніца і сапраўды Пісьменніца.

З гэтай нагоды да Вас, шаноўная рэдакцыя "Народнай волі" ўзнікае шэраг пытанняў і прапаноў.

Чаму Вы, шаноўная рэдакцыя "Народнай волі", лічыце, што Іпатава павінна была сабраць у абарону Васіля Быкава подпісы ўсіх сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў (а іх больш за 500)? Ці не нагадвае Вам гэта сталінска-брэжнеўскую практыку, калі ўсіх савецкіх пісьменнікаў прымушалі публічна падпісваць заказныя лісты супраць Салжаніцына, Пастэрнака ці Сахарава? У кожнага пісьменніка ёсць асабістае сумленне і гонар, і што замінае яму самому без усялякіх званкоў і просьбаў выказацца ў абарону самага знакамітага пісьменніка Беларусі ў свеце? І пры чым тут Вольга Іпатава?

Дарэчы і Вы, сп. Сярэдзіч, рэдактар сур'ёзнага выдання, якое значна падвышае свой рэйтынг, друкуючы матэрыялы і малюнкі Васіля Быкава, маглі і самі сказаць сваё слова ў абарону вядомага пісьменніка.

Таварыства беларускай мовы не раз прымала адпаведныя заявы супраць той антыбеларускай дзейнасці, якую праводзіць зараз каманда Чыкіна. Хто замінае гэта рабіць іншым дэмакратычным арганізацыям, установам, органам друку ці проста асобам?

А як зразумець заяву рэдакцыі, што Вольга Іпатава "відаць, хоча ўсядзець на двух крэслах, застацца сваёй ва ўладзе і быццам у апазыцыі"? У адрозненне ад некаторых журналістаў, якія працавалі ў "Народнай волі", такіх, напрыклад, як Маслюкова ці Навоеў, Іпатава ніколі не зневажала беларускую апазіцыю, ніколі не прагінalася перад уладнымі структурамі.

Успомніце, якой была газета "Культура", калі там працавала Вольга Іпатава, якія унікальныя матэрыялы там друкаваліся. А яе шматлікія тэлеперадачы, прысвечаныя беларускай гісторыі і культуры ў 70-80 гадах нашага стагоддзя? Іпатава была адзіным смелым чалавекам, якая не збаялася выступіць па-беларуску, востра і крытычна на апошнім сходзе работнікаў культуры з удзелам Лукашэнкі. І гэта ў той час, калі шмат якія "мэтры" нашай культуры, на рэкламу якіх "Народная воля" не шкадуе сваёй плошчы, у прысутнасці самога "щебетали по-русски", дзякавалі яму за сваё шчаслівае дзяцінства, юнацтва і старасць. Вельмі абурае таму Ваша здзеклівая парада шаптаць пра свае праблемы на вушка Лукашэнку. Пакіньце гэтую параду для сп. Коктыш.

Шмат якія сябры ТБМ абураюцца і тымі зменамі, якія зараз адбываюцца ў "Народнай волі". Двухмоўную газету літаральна запаланілі сваімі рускамоўнымі матэрыяламі і фотаздымкамі прэтэндэнты ў кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду. У іх разважаннях пра рэформу ў эканоміцы і пра сяброўскія стасункі з Расіяй мы нічога не знаходзім пра лёс нашай мовы і культуры, пра адкрыццё Беларускага Нацыянальнага Універсітэта, пра вяртанне нашай спрадвечнай сімволікі, гістарычных назоваў і гарадоў.

З другога боку ў "Народнай волі" адзін за адным друкуюцца шматлікія рускамоўныя матэрыялы былых сяброў Лукашэнкі, якія зараз прымазаліся да апазіцыі і вучаць нас, як трэба жыць і працаваць. Хай лепей успомняць, як яны паводзілі сябе, калі ў парламенце збівалі прадстаўнікоў апазіцыі, ці пра свае выступы ў Вярхоўным Савеце XIII склікання супраць нацыянальнай сімволікі.

Паважаны Іосіф Паўлавіч! Калі Вы сапраўды мужчына і культурны чалавек, то прынясіце сп. Вользе свае прабачэнні на старонках газеты, бо папулярнасць выдання заваяваць вельмі цяжка, а згубіць – надзвычай лёгка. У Вашых руках далейшы лёс і Ваш і Вашай газеты. Зняважа ж беларускіх пісьменнікаў нікому яшчэ на карысць у рэшце рэшт не пайшла. Варта над гэтым задумацца.

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"*
*Алег Трусаў.*

Павел Сцяцко

# Культура мовы

### Пра некаторыя моўныя адзінкі тэрміналагічнага кшталту

***Чырвонка - а не краснуха.*** Слова ***краснуха*** не фіксуецца слоўнікамі Насовіча, Ластоўскага, Байкова і Некрашэвіча. Не падае яго на сваіх старонках і "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" як неўласцівае нашай мове. У акадэмічныя беларускія слоўнікі яно трапіла з усесаюзнага слоўнікавага фонду – расейскай мовы. Так, у РБС-53 (с.219) чытаем: "Краснуха 1. Мед. Краснуха. 2. Вет. Заўшніца". У расейскай мове слова ***краснуха*** мае выразную матывацыю: "Заразная болезнь (обычно детская), сопровождающаяся красноватой сыпью на теле" (Словарь русского языка. В 4-х томах. Том II. К - О. 2-е изд. М., 1982. С.122 ). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.2.Мн.,1978.С.725) змяшчае копію артыкула (з першага выдання названага "Словаря"): "Краснуха – заразная дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца чырванаватай высыпкай на целе".

У аснове назвы гэтай хваробы, як бачым, ляжыць адзнака колеру высыпкі на целе (чырвоны, чырванаваты). Адсюль вынікае натуральная назва – ***чырвонка***. Гэтым словам называюць у народнай мове, да прыкладу на Гарадзеншчыне, заразную хваробу дзяцей і жывёлінаў. Нашыя ж акадэмічныя слоўнікі расшчапілі адну лексему на дзве, замацаваўшы за хваробай жывёлы назву *заўшніца*, а за дзіцячай – расейскае слова ***краснуха***. Але ж гэтаму пярэчыць, як мы пераканаліся, унутраная форма гэтага слова, бо лексема ***"красны"*** фіксуецца беларускімі слоўнікамі толькі як вусна-паэтычныя з значэннем ***"прыгожы"***. Нават у перакладах расейскіх фразеалагізмаў на беларускую мову слоўнікі не падаюць гэтага ***"красны"***. Параўнайма: *красная цена – найбольшая цана; пустить красного петуха – пусціць чырвонага пеўня; проходить красной нитью – праходзіць чырвонай ніткай; долг платежом красён (посл.) – што вінен, аддаць павінен; на миру и смерть красна (посл.) – на людзях і памерці не страшна; красный угол – пачэсны кут; покут* (РБС-93.Т.1.С.681).

І ў тэрміналагічнай лексіцы няма слова ***"красны"***, а толькі ***"чырвоны"***: красное дерево – чырвонае дрэва; красный гриб – асавік, падасінавік; красный железняк – чырвоны жалязняк; красный перец – чырвоны перац; хим. красный фосфор – чырвоны фосфар; красная медь, хим. – чырвоная медзь; красное вино – чырвонае віно; красное коление, физ., техн. – чырвоны напал; красная линия, архит. – чырвоная лінія; красный лес – хваёвы лес; красная строка – новы радок; красный товар, уст. – картуна; красная рыба – каштоўная рыба; красная дичь, охотн. – каштоўная дзічына; красный зверь – каштоўны звер (Тамсама).

Усё згаданае пераконвае, што адпаведнікам расейскага ***краснуха*** ёсць беларускае ***чырвонка***.

### Пра існасць, існы і іншыя адметнасці беларускай мовы

***Існасць і сутнасць.*** Слова ***існасць*** – назоўнік, утвораны ад прыметніка ***існы (існ-асць)***. Сам прыметнік ***існы*** з ранейшага ***істны (истный)***, корань у ім ***іст-***, той, што і ў слове ***істота***. (У старабеларускай мове зафіксаванае ***истый 'сапраўдны'***). У расейскай мове беларускаму ***існы*** адпавядае ***сущий (существующий)***. Ад ***сущий*** утварылася і ***сущность***, адпаведнае беларускаму ***існасць***.

Слова ***існасць*** як адэкватнае рас. ***сущность*** засведчыў "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча (МН.,1926), пазначаючы, што гэтае слова замацаванае ў "Беларускай навуковай тэрміналогіі" (Вып. 4. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі). Фіксуе яго і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М.,1962. С.362): "Існасць – сущность". Пацвердзіў гэта і двухтомавы яго паслядоўнік БРС-88, с.556, дзе бачым: *існасць* ***– сущность,*** *існы* ***– сущий (существующий)*** (БРС-88, с. 556). "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае слова ***існы*** як прыметнік-адпаведнік рас. ***существующий*** (Т.3.С.485).

Акадэмічныя перакладныя слоўнікі, каб наблізіць беларускую мову да расейскай, сталі падаваць да рас. ***сущность*** і штучна створаную (у выніку кантамінацыі рас. ***суть*** і ***сущность***) структуру ***"сутнасць"***. Аднак у беларускай мове гэтае ***"сутнасць"*** не мае словаўтваральнай асновы, тым часам як ***існасць*** і яго аднакаранёвікі складаюць цэлы лексічны куст словаў: ***існаваць*** (этымалагічна ***істнаваць***, так яго падае і В. Ластоўскі) – ***існы*** *(< істны) – існасць (< істнасць) – істота (< рас. существо) – істотна (существенно) – істотнасць (существенность) – істотны (существенный)*. Усе расейскія адпаведнікі маюць корань ***сут-(сущ-)***, якога не ведае беларуская мова.

Штучнасць структуры ***"сутнасць"*** у тым, што яна парушае заканамернасці ўтварэння абстрактных назоўнікаў на ***–асць***, якія ўзнікаюць шляхам далучэння суфікса ***–асць (-осць)*** да асновы адпаведнага прыметніка: ***спрытны – спрытнасць, бедны – беднасць, існы – існасць...***

Словаўтваральная структура слова ***"сутнасць" сутн-асць.*** Аднак такога штучнага прыметніка ***"сутны"*** не фіксуюць гэтыя слоўнікі. Як ужо згадвалася, рас. ***сущность*** адпавядае белар. ***існасць*** (утварэнне ад ***існы***: ***існ-асць***). І на месцы штучнай калькі ***па сутнасці*** (з рас. ***по существу***) мусіць быць: ***у існасці***.

Слова ***існасць*** выкарыстоўвалі класікі беларускай літаратуры. У Якуба Коласа чытаем: "Ох, гэтыя ціхія маладыя людзі! Іх сапраўдную існасць даўно вызначыла народная мудрасць: у ціхай бухце чэрці водзяцца".

Фіксуе слова ***існы*** і ***існасць*** і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы": "Існы, -ая, -ае. 1. Які існуе, маецца ў рэальнасці. 2. Сапраўдны, рэальны. 3. У знач. наз. існае, -ага, н. Тое, што існуе ў рэальнасці. Прымаць жаданае за існае" (ТСБМ.Т.2.Мн.,1978.С.561). "Існасць, -і, ж. Тое, што і сутнасць" (Тамсама).

А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996) ужо выкрасліў гэтыя адметнабеларускія словы ***існы*** і ***існасць*** – з свайго рэестра і пакінуў толькі штучную структуру ***"сутнасць"*** (і ***"па сутнасці"***), скалькаваўшы тлумачэнне з артыкула ***"сущность"*** у кнізе: С.И.Ожегов. Словарь русского языка.

***Стаўленне і адносіны.*** Слова стаўленне ўтварылася ад ***ставіцца*** "праяўляць, выражаць свае адносіны да каго-, чаго-н." (Мясцовыя людзі... заўсёды з насцярогай ставяцца да чужых. Навуменка) (ТСБМ. Т.5.Кн.2.С.294). "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Мн., 1926) падае ***адносіны*** толькі як тэрміналагічную адзінку, замацаваную ў "Беларускай навуковай тэрміналогіі...", бо ***адносіны*** – гэта дастасаванае да беларускай словаўтваральнай сістэмы (з суфіксам ***–ін-ы***) аднакаранёвае слова з ***отношение***. У нетэрміналагічным выкарыстанні рас. отношение адпавядаюць іншыя беларускія словы: ***стаўленне, стасункі, дачыненні.*** Але ў савецкі час да згаданых адмысловых беларускіх адпаведнікаў падавалася (і на першым месцы) слова ***адносіны*** ("Каб бліжэй было да расейскай мовы" – К.Чорны). У акадэмічных слоўніках гэта якраз і бачым: "Отношение" ср. 1. (чьё-л. к кому-, чему-л.) – адносіны, стаўленне; внимательное отношение к делу – уважлівыя адносіны да справы; 2. (связь, касательство) – дачыненне; 3. (общение, связи) – адносіны; 4. мат. адносіны; 5. офиц. адносіны (РБС-53, с.375; РБС-82.Т.1.С.630). "Русско-белорусский словарь" 1993 года, улічыўшы моўную практыку адраджэнскага часу, падае ужо побач з ***адносіны*** і слова ***стасункі:*** *быть в хороших отношениях – быць у добрых адносінах (стасунак)* (Т.2.С.400).

Беларусы натуральна кажуць, пытаюцца ў суразмоўцы: "Як вы ставіцеся да гэтага? Якое ваша стаўленне?" Таму ладу беларускай мовы натуральна адпавядае слова ***стаўленне***. Яго фіксуе і "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (1996,с.626): "Стаўленне, -я, н. адносіны да каго-, чаго., погляд на што-н.; разуменне каго-, чаго-н".

***Садоўнік і садавод.*** Назвы асобы-кампазіты (складаныя словы) з фінальнаю часткаю ***–вод*** нехарактэрныя для беларускай мовы. На месцы іх выкарыстоўваюцца суфіксавыя ўтварэнні; параўн.: ***пчал-яр*** (рас.пчеловод), ***птушкагадов-ец*** (птицевод), ***авечкагадов-ец*** (овцевод).

Рас. ***садовод*** у беларускай мове адпавядае ***садоўнік (садовы – садоўнік ці сад-оўнік***. Як і ***агарод – агароднік***). Яго фіксуе "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Мн., 1926, с.282): садоўнік м. – садовод і вытворнае ад яго садоўніцтва – садоводство. Нашыя ж акадэмічныя слоўнікі, захаваўшы слова ***садоўніцтва,*** як адпаведнік рас. ***садоводство***, замест слова ***садоўнік*** ужо падаюць агульнасаюзны стандарт ***садавод*** (Гл. РБС-53,с.601; РБС-82. Т.2. С.346). А ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К. Крапівы (Мн., 1989, с.427) ужо бачым: "Садаводства ср. в разн. знач. садоводство".

ТСБМ (Т.5. Кн.1. С.18) фіксуе: "Садоўнік, -а, м. Спецыяліст па догляду саду і вырошчванню садовых раслін" і "Садоўніцтва, -а, н. 1. Занятак садоўніка; майстэрства даглядаць сад. 2. Развядзенне садовых раслін, як галіна сельскай гаспадаркі // Раздзел сельскагаспадарчай навукі аб развядзенні і вырошчванні садоў". Разам з тым тут бачым і дублёраў гэтых слоў – ***садавод і садаводства*** (Тамсама, с. 16). Гэта прадубляваў і аднатомавы ТСБЛМ.

Вось як набліжалася беларуская мова да расейскай!

*(Працяг у наступных нумарах.)*

# Да 80-годдзя "Чырвонай змены"

**Паважаныя калегі!**

Шчыра віншуем Вас з слаўным юбілеем, 80-мі ўгодкамі з дня выхаду першага нумара газеты "Чырвоная змена".

На пачатку 20 стагоддзя "Чырвоная змена" стала выходзіць, як маладзёвая газета, якая хутка набыла аўтарытэт у шырокай аўдыторыі. Сёння чытачы-аматары маюць магчымасць атрымліваць "Чырвонку" тры разы на тыдзень.

Адметна тое, што "Чырвоная змена" была першай газетай у былым СССР, якая хутка адгукнулася на перабудову і пачала шырока асвятляць плынь беларускага адраджэння, пытанні нацыянальнай гісторыі і культуры.

Ад імя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, рэдакцыі газеты "Наша слова" жадаем плёну ў Вашай нялёгкай працы, супрацоўнікам – творчага натхнення, цікавых рэпартажаў і асабістага шчасця. Маючы такую багатую гісторыю за плячыма, зычым і ў XXI стагоддзі не здаваць Вашы пазіцыі і надалей працаваць на карысць нашай Бацькаўшчыны.

*19.04.2001 г.* *Сакратарыят ТБМ.*

## Васілю Сёмуху ўручаны крыж кавалера ордэна "За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй"

Вечарам 5 красавіка пасол Германіі ў Беларусі Хорст Вінкельман уручыў вядомаму беларускаму літаратару Васілю Сёмуху крыж кавалера "За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй". Гэтай узнагародай прэзідэнт ФРГ Іаханэс Раў адзначыў выключны ўклад Сёмухі ў справу ўзаемапаразумення і прымірэння паміж беларусамі і немцамі.

Як адзначыў сп. Вінкельман, за гэтымі словамі – удзячнасць і павага да чалавека, які, як "кангеніяльны перакладчык" на беларускую мову вялікіх твораў нямецкай літаратуры наблізіў яе да свайго народу. Паводле словаў сп. Вінкельмана, у цэнтры творчасці Сёмухі стаяць творы на тэму барацьбы чалавека за сваё маральнае прызначэнне. Як падкрэсліў пасол, "грандыёзныя працоўныя і паэтычныя здзяйсненні" Сёмухі дапаўняюцца "нялёгкім дасягненнем чалавечага жыцця, адваёванага ў бессардэчнага лёсу, адказнасць за які ляжыць на нас – немцах". Хорст Вінкельман выказаў пажаданне, каб радасць за гэтае цудоўнае чалавечае дасягненне" – адмова ад нянавісці ў імя любові – "дала вам унутраны спакой і мір, да чаго ўсе мы імкнёмся".

Вядомы беларускі філолаг і лінгвіст Лявон Баршчэўскі заявіў, што факт узнагароды з'яўляецца знакавым не толькі для самога Васіля Сёмухі, але і для ўсёй беларускай культуры. Ён нагадаў, што перакладчык нарадзіўся ў 1936 годзе ў невялікай вёсцы недалёка ад Пружан (Берасцейская вобласць) і шасцігадовым дзіцём застаўся без бацькі і маці, якіх у яго адабрала вайна. Пасля заканчэння рамана-германскага аддзялення філфака МДУ Сёмуха прысвяціў сябе перакладам твораў нямецкай літаратуры. Сярод яго працаў – пераклады Вілі Брэдэля, Фрыдрыха Шылера, Вольфганга Гётэ, Германа Гесэ, Фрыдрыха Ніцшэ і Эрнста Гофмана – здуменнікаў, якія рэпразантуюць розныя эпохі і стылі нямецкай культуры. Паводле словаў Баршчэўскага, Сёмуху, які быў адным з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту выключылі з Саюза пісьменнікаў і толькі ў пачатку 90-х у "эпоху Шушкевіча" перакладчык быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа.

Паводле словаў Сёмухі, дзякуючы нямецкай культуры яму ўдалося падняцца над асабістай трагедыяй і прыйсці да разумення, што чалавек не можа вечна жыць з нянавісцю. "З дзяцінства я жыў надзеяй, што любоў і дабро перамогуць зло – сказаў перакладчык. Творы нямецкай літаратуры дапамаглі яму зацвердзіцца ў тым, што менавіта любоў дазваляе чалавеку, як Божаму стварэнню зрабіць правільны выбар паміж дабром і злом. Васіль Сёмуха выказаў задавальненне ў сувязі з тым, што яго праца служыць справе развіцця культуры двух народаў.

У цырымоніі ўручэння ўзнагароды прымалі ўдзел вядомыя дзеячы нацыянальнай творчай інтэлегенцыі і дыпламаты. Сярод іх быў і Старшыня ТБМ Алег Трусаў, які павіншаваў юбіляра і адзначыў вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры пасла Вінкельмана.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Канферэнцыя Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ

5 красавіка адбылася сёмая канферэнцыя Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ. Дэлегаты заслухалі і абмеркавалі справаздачны даклад старшыні арганізацыі Яраслава Клімуця і старшыні рэвізійнай камісіі Сяргея Украінкі.

Гарадская арганізацыя ТБМ у Магілёве створана ў снежні 1989 года і ўжо дванаццаты год яе ўзначальвае дацэнт кафедры беларускай літаратуры Я. Клімуць, да мінулага года – дэкан філалагічнага факультэта Магілёўскага універсітэта. Да 1995 года арганізацыя была адной з буйнейшых у Магілёве і выконвала даволі значную дзейнасць. Але за перыяд прэзідэнцкага кіравання існаванне ўсіх няўрадавых аб'яднанняў (у тым ліку і ТБМ) значна ўскладнілася. Арганізацыя скарацілася, але не знікла. На момант канферэнцыі ў Магілёве дзейнічае каля двух дзесяткаў суполак ТБМ, якія аб'ядноўваюць больш за 200 сяброў. Канферэнцыя пагадзілася, што для актывізацыі дзейнасці патрабуецца структурнае ўпарадкаванне арганізацыі.

Канферэнцыя задаволіла просьбу спадара Клімуця аб адстаўцы з пасады старшыні па той прычыне, што ён мае намер засяродзіцца на падрыхтоўцы анталогіі "Літаратурная Магілёўшчына", для чаго патрабуецца шмат вольнага часу, пакінуўшы яго намеснікам старшыні. Старшынём жа абраны калега Я. Клімуця па кафедры Сяргей Украінка. Канферэнцыя абрала раду з 9 чалавек, рэвізійную камісію з трох чалавек, чатырох дэлегатаў на з'езд ТБМ, а таксама прыняла адозвы да кіраўніцтва горада.

*М.Булавацкі.*

## Кампутарны слоўнік

Віцебская суполка моладзі "Верас" выдала кампутарны беларуска-рускі/руска-беларускі слоўнік, што з'явілася першай спробай стварэння такога кшталту праграмы ў Беларусі. Аўтары спадзяюцца, што іх прадукт знойдзе шырокі ўжытак сярод карыстальнікаў, пра што яны паклапаціліся: слоўнік мае зручны інтэрфейс, магчымасць настройкі колераў і іншых опцыяў, выкарыстоўваецца правапіс "наркамаўка", бо слоўнік таксама прызначаны і для навучэнцаў.

Архіў з праграмай можна перапісаць з сайта ВСМ "Верас", што знаходзіцца па адрасе http://veras.vitebsk.org.

## "Манументальнае дойлідства Беларусі..."

У Менску ў выдавецтве "Лекцыя" выйшла кніга кандыдата гістарычных навук Алега Трусава "Манументальнае дойлідства Беларусі XI - XVIII стагоддзяў".

У кнізе ўпершыню ў Беларусі падаецца падрабязная характарыстыка ўзнікнення і развіцця мясцовых будаўнічых матэрыялаў, арганізацыя ў сярэднявечны будаўнічай працы, прасочваецца эвалюцыя будаўнічых канструкцый і малых архітэктурных формаў. Выданне праілюстравана арыгінальнымі фотаздымкамі. Адрасуецца архітэктарам, археолагам, этнографам, мастацтвазнаўцам, рэстаўратарам, музейным работнікам. Мае цікавасць для краязнаўцаў і шырокага кола аматараў гісторыі.




# Прэзентацыя новай кнігі Зянона Пазьняка

12 красавіка ў канцэртнай зале Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа адбылася імпрэза, прысвечаная новай кнізе З. Пазьняка "Глёрыя Патрыя", якая ў канцы мінулага года пабачыла свет у Вільні, дзякуючы намаганням Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Яшчэ перад пачаткам прэзентацыі ў зале адчуваўся дух урачыстасці і чагосьці вельмі важнага. Бел-чырвона-белы сцяг, які вісеў на сцяне мог сказаць толькі адно: што прэзентацыя будзе насычана пачуццём патрыятызму. І ў адказ на гэты сцяг некаторыя з прысутных падаставалі, асабліва ў апошнім радзе, сцягі і трымалі іх у руках, чакаючы зручнага моманту, каб з крыкам "Жыве Беларусь!" падняць высока над галавой. А зала ўсё запаўнялася і запаўнялася. Вольных месцаў не было і шмат каму прыйшлося стаяць, але ніхто не скардзіўся на нязручнасць свайго становішча. І не дзіўна! Бо гасцям не было калі сумаваць.

Іх увагу займаў дзіцячы хор менскай мастацкай школы пад кіраўніцтвам Дабравольскай. Маладыя спевакі паказалі цудоўныя здольнасці вакалу для свайго ўзросту і сваімі анёльскімі галасамі цешылі публіку.

Але нарэшце прэзентацыя пачалася. Пачалася яна з уступу аўтара, які быў зачытаны ўслых. Далей гучалі вершы Зянона і паралельна ім грала музыка. Вершы, самі па сябе цудоўныя, у такім прафесіянальным выкананні гурта "Жывое слова" пад кіраўніцтвам Юрася Чарэнкі ды яшчэ аздобленыя такой прыгожай музыкай, выклікалі ў прысутных самыя лепшыя пачуцці. Апладысментам не было канца. Яны б напэўна і не скончыліся, калі б не аб'явілі, што слова мае Мікола Крукоўскі. Усе сціхлі. Рэдка калі можна пачуць такія разумныя словы. Адразу было чутна, што кажа сапраўдны інтэлігент. Яго высокаінтэлектная прамова ўразіла слухачоў. Ён распавёў пра ўсе дробязі кнігі, яе змест і пра самога аўтара. Уменне красамоўства было відавочна: усе прысутныя слухалі, як зачараваныя.




Далей аўдыторыя пачула цудоўныя спевы хора імя Глінкі пад кіраўніцтвам таленавітага дырыжора Насаева. Але вечар на гэтым не быў скончаны. На сцэне з'явіўся Міхаіл Лявончык са сваімі цымбаламі і музычай суправаджаў слайды, якія прысутныя маглі пабачыць на экране. Слайды расказвалі пра жыццё Зянона, яго лёс, а музыка не толькі аздабляла гэтыя кадры, але прымушалі гасцей задумацца над тымі пытаннямі, якія паставіў аўтар у сваёй кнізе. Гукі музыкі расплыліся па ўсёй зале. Эффект быў каласальны. І толькі тады, калі музыка ўсцаў, слухачы нібыта ачнулі ад зачараванага сну. Сярод авацый то там, то тут чуўся крык "Брава".

Але цяпер настала чарга парадаваць перакладамі вершаў. Кніга аказалася настолькі папулярнай, што ўжо шмат хто з замежных паэтаў вырашыў зрабіць пераклады на сваю родную мову. Валеры Буйвал зачытаў пераклады Чэслава Сэнюха на польскую мову. Адзінае, што я магу тут заўважыць, дык гэта тое, што пераклад гучаў не горш за арыгінал. Гучалі і пераклады Ісама Хашэма на арабскую мову, тут бадай толькі спадар Лявон Баршчэўскі мог штосьці зразумець.

Зала была поўная народу, аднак вялікай колькасці нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, спецыялістаў у галіне археалогіі, фотамастацтва, архітэктуры, урбаністыкі, мастацтвазнаўства не назіралася. А шкада. Была ўнікальная магчымасць расказаць пра Пазьняка як пра з'яву ў беларускай навуцы другой паловы XX стагоддзя. Арганізатары імпрэзы не справіліся з гэтай задачай, бо нічога не было сказана пра фотаальбом Зянона пра Браслаўскія азёры, унікальную кнігу "Рэха даўняга часу", прысвечаную старажытняму Менску, шматлікія артыкулы пра гістарызм і неастылі, беларускую урбаністыку, пра змаганне за захаванне Траецкага прадмесця і Верхняга горада Менска, пра ўнікальныя раскопкі дамініканскага касцёла, менскай ратушы, Святадухаўскай царквы, кляштара бенедыктынак, а таксама пра яго працы, прысвечаныя гісторыі беларускага тэатра і сусветна вядомыя артыкулы і кнігі пра Курапаты.

Але самае цікавае прыхавана на канец. У выкананні Ілліі Доўнара і Марыі Галебы пад музыку былі расказаны прыпавесці пісьменніка. І глыбокая мараль прыпавесцяў, і ўмелы, насычаны эмоцыямі пераказ, разжалілі слухачоў. Усе былі ў захапленні.

І неўзабаве на сцэну выйшаў гурт "Ліцвіны", які сваёй народнай музыкай суправаджаў паказ слайдаў. На экране з'явіўся апошні кадр, здымак аўтара кнігі – Зянона Пазьняка, Зянона – паэта. Загучаў духоўны гімн беларусаў "Магутны Божа", усе ўсталі. Кожны спяваў святыя словы для беларускага народа. Усе маліліся разам. Гімн скончыўся і дух патрыятызму дасягнуў сваёй кульмінацыі. Трываць больш не было моцы і хтосьці крыкнуў "Жыве Беларусь!", і гучным рэхам адгукнулася "Жыве!".

*Нашы карэспандэнты.*



№ 17 (505) 25 КРАСАВІКА 2001 г. НАША СЛОВА

Станіслаў Суднік

# Да "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі"

*Пры фармаванні Рабочай групы па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі, я, будучы колішнім выпускніком Вайсковай каманднай акадэміі імя Маршала Савецкага Саюза Жукава Г.К., палічыў неабходным увайсці ў яе склад. Мае прапановы па Стратэгіі былі падрыхтаваны некалькі месяцаў назад і былі даведзены да сяброў Рабочай групы. Але я не настойваў на публікацыі, каб не навязваць нікому свае пасылкі. Сёння ж у парадку абмеркавання варыянту, адобранага Рабочай групай да друку, лічу неабходным акрэсліць свае падыходы.*

*Перш за ўсё, што такое Стратэгія?*

**Стратэгія развіцця беларускай мовы – гэта сукупнасць ідэй, прынцыпаў, маральных і прававых нормаў, планаў і мерапрыемстваў, кірункаў дзейнасці па дасягненню канчатковай мэты – усталявання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь абсалютнага панавання беларускай мовы і вызначэння ёй годнага і вартага яе месца ў міжнароднай супольнасці моваў.**

*У астатнім можна пагадзіцца з выкладзеным у Праекце.*

**Змест Стратэгіі:**

*Любая стратэгія патрабуе класічнага зместу, які павінен утрымоўваць:*

1. Зыходнае становішча.
2. Канчатковая і прамежкавыя задачы.
3. Сілы і сродкі.
4. Супраціўнікі і перашкоды.
5. Кірункі і этапы дзейнасці.
6. Планы рэалізацыі.
7. Інтэлектуальнае, ідэалагічнае і матэрыяльнае забяспечанне.
8. Чаканыя вынікі.

*Не адлюстраваўшы ўсе гэтыя пазіцыі, мы не можам гаварыць пра нейкі закончаны дакумент, а толькі пра добрыя намеры.*

**1. Зыходнае становішча.**

*Зыходнае становішча, або сучасны стан беларускай мовы ў Праекце выкладзены абсалютна не канкрэтна, зрэз беларускага грамадства па гарызанталі "беларуская мова" не зроблены. Разам з тым менавіта гэты стан і выклікае распрацоўку нашай Стратэгіі. Сучасны стан беларускай мовы вызначаецца духоўна-ідэалагічнымі і матэрыяльна-аб'ектыўнымі пазіцыямі. Пагаджаючыся ў агульным з выкладзеным у праекце неабходна канкрэтна адзначыць, што:*

**З аднаго боку:**

1. Беларуская мова – адзіная прыродная, натуральная і спрадвечная мова беларускага этнасу.
2. Беларуская мова – жывая, дасканалая, выдатна распрацаваная лінгвістычная фармацыя.
3. Беларуская мова – адзіная законная дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь.
4. Рэспубліка Беларусь – незалежная краіна, адзіная краіна, дзе беларускі народ рэалізаваў свае права на дзяржаўнасць, як вышэйшую форму самаарганізацыі любой нацыі.
5. На Зямным шары жыве больш 11 мільёнаў беларусаў. У Беларусі жыве 8159,1 беларусаў і каля 300 тысяч прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў якія лічаць сябе беларусамі.
6. Беларускую мову ў Беларусі лічаць роднаї 85,6% беларусаў, 9,1% рускіх, 67,1% палякаў, 14,3% украінцаў, 17,1% яўрэяў і 12,9% іншых нацыянальнасцяў.
7. Дома на беларускай мове размаўляюць 41,3% беларусаў, 4,3% рускіх, 57,6% палякаў, 10,2% украінцаў, 3,8% яўрэяў, 9,5% іншых нацыянальнасцяў. 36,7% усяго насельніцтва размаўляе дома па-беларуску. 20% насельніцтва не валодае рускай мовай.
8. На беларускай мове працуюць 45%? установаў культуры, 37%? агульнаадукацыйных школаў.
На беларускай мове вучыцца 29 % вучняў.
9. На беларускай мове выходзіць 5%? цэнтральных і 20%? рэгіянальных СМІ. Агульны наклад складае 10%? ад усяго накладу СМІ, што выходзяць у Беларусі.
10. Наклад кніг на беларускай мове складае 15%? ад усяго накладу кніг, што выходзяць у Беларусі.
11. На беларускай мове працуюць, ці рэпрэзантуюць сваю працу практычна ўсе дэмакратычныя партыі Беларусі і абсалютная большасць грамадскіх арганізацый.
12. У рэлігійных канфесіях развіваюцца зрухі ў бок беларускай мовы.

**З другога боку:**

1. 62,8% насельніцтва Беларусі не размаўляе дома па-беларуску.
2. 57,4% насельніцтва не валодае свабодна беларускай мовай.
3. У абласных цэнтрах не засталося ні аднаой беларускай школы.
4. У Беларусі практычна няма беларускамоўных садкоў.
5. Колькасць беларускамоўных падрыхтоўных і першых класаў кожны год скарачаецца і складае 24 %.
6. У Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе ўсе прадметы выкладаліся б па-беларуску.
7. Усе ПТВ, тэхнікумы працуюць на рускай мове.
8. Рускай мове нададзены статус 2-й дзяржаўнай.
9. Увесь дзяржаўны аппарат працуе на рускай мове.
10. Беларуская мова ўсё больш выцясняецца з радыё і тэлебачання.
11. Уся кінаіндустрыя рускамоўная.
12. Тэлеэфір забіты рускамоўнымі каналамі і праграмамі.
13. Большасць рэлігійнаў установаў працуюць на мовах суседніх краінаў.
14. Праводзіцца дзяржаўная палітыка на знішчэнне беларускай мовы.
15. Міжнародная супольнасць не звяртае ўвагі на крытычны стан беларускай мовы.
16. Змаганне за беларускую мову вядуць усяго некалькі грамадскіх арганізацый
17. Беларускамоўная дыяспара не шматлікая і расцярушаная па свеце.

*З кожнага з гэтых пунктаў вымалёўваецца кірунак дзейнасці.*

*З выкладзенага ў Праекце, на маю думку, непрымальным з'яўляецца пасылка пра дзве літаратурныя беларускія мовы.* ***Літаратурная беларуская мова ў нас адна і адзіная.*** *У нас дзве граматыкі. На "наркамаўцы", не гледзячы на ўсе яе хібы і недасканаласці, чытае і піша 99% беларусаў, аматары "тарашкевіцы" складаюць 0,1%. Гэта таксама зыходныя лічбы.*

*Больш 99% карыстаецца і кірылічнай графікай. Каля 0,01% карыстаецца некалькімі відамі лацінкі. І гэта зыходныя лічбы.*

**2. Канчатковая і прамежкавыя задачы.**

*Мэты і задачы ў праекце прапісаны абсалютна не канкрэтна, можна сказаць, сарамязліва, як бы баючыся, каб нас не абвінілі ў нацыяналізме ці экстрэмізме. Разам з тым зусім відавочна, што канчатковымі задачамі павінны быць:*

**Канчатковыя задачы:**

**1. Усталяванне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь абсалютнага панавання беларускай мовы ўва ўсіх сферах дзяржаўнага, эканамічнага, грамадскага жыцця і побыту, а таксама і ўва ўсіх галінах дзейнасці.**

**2. Стварэнне ўмоў для гарманічнага развіцця беларускай мовы ў III-м тысячагоддзі, як адзінай жывой штодзённай мовы беларускага народу.**

*Пры іншых задачах няма чаго і агарод гарадзіць і стратэгію пісаць.*

**Частковыя і прамежкавыя задачы:**

1. Мабілізацыя ўсіх сілаў беларускага этнасу дзеля высакароднай справы адраджэння беларускай мовы.
2. Пад'ём прэстыжу беларускай мовы да ўзроўню нацыянальнай каштоўнасці.
3. Фармаванне ўсеагульнага станоўчага стаўлення да беларускай мовы.
4. Павелічэнне колькасці носьбітаў беларускай мовы.
5. Беларусізацыя кіраўніцтва краіны.
6. Беларусізацыя дзяржаўнага апарату.
7. Беларусізацыя сістэмы адукацыі.
8. Беларусізацыя СМІ.
9. Беларусізацыя індустрыі забаваў.
10. Беларусізацыя навуковых, вытворчых працэсаў і сістэмы абслугоўвання.
11. Беларусізацыя ідэалагічных і культавых інстытутаў.
12. Беларусізацыя грамадства.

*Можна запярэчыць, што пры сённяшняй уладзе большасць з гэтых задач рэалізавана быць не можа. Але, па-першае, гэта стратэгічныя задачы, а па-другое, калі ў нас не хапае смеласці нават паставіць задачы, то пра якую стратэгію мы можам гаварыць.*

**3. Сілы і сродкі.**

*У Праекце злёгку разгледжана фінансаванне асобных відаў дзейнасці. Разам з тым аналіз беларускага грамадства не праведзены, групы актыўнага дзеяння, групы падтрымкі, пратэстныя групы не вызначаны, іх магчымасці, перспектывы росту і актывізацыі не прааналізаваны.*

*Склад сілаў для рэалізацыі стратэгіі залежыць ад агульнай палітычнай, эканамічнай, і сацыяльнай сітуацыі ў краіне, якую неабходна разглядаць паводле трох варыянтаў:*

***Варыянт А.*** *Пры ўладзе знаходзяцца антыбеларускія, антыдэмакратычныя сілы.*

***Варыянт Б.*** *Да ўлады прыходзяць антыбеларускія псеўдадэмакратычныя сілы.*

***Варыянт В.*** *Да ўлады прыходзяць нацыянальныя сілы.*

**Сілы і сродкі. Варыянт А.**

1. Беларускамоўная нацыянальная навуковая, тэхнічная і творчая эліта.
2. Беларускамоўная інтэлігенцыя.
3. Сістэма культуры (толькі калектываў мастацкай самадзейнасці, у асноўным беларускамоўных да 1,5 тысяч).
4. Настаўнікі беларускай мовы (10000 чалавек).
5. Настаўнікі беларускамоўных школаў, выкладчыкі ВНУ, каледжаў, навучальняў.
6. Беларускамоўная прэса (дзяржаўная і недзяржаўная).
7. Сялянства.
8. Заходнебеларускія каталікі.
9. ТБМ (да 8000 чалавек).
10. Саюз пісьменнікаў Беларусі.
11. Нацыянальныя палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі.
12. Нацыянальная моладзевыя арганізацыі.
13. Беларуская дыяспара.
14. Беларускамоўная частка духавенства.
15. Замежныя структуры і арганізацыі, зацікаўленыя ў дэмакратызацыі Беларусі.
16. Рускамоўная дэмакратычная прэса.
17. Рускамоўная дэмакратычная моладзь.
18. Рускамоўная дэмакратычная інтэлігенцыя.
19. Прыватныя прадпрымальніцкія структуры.
20. Сацыяльна незадаволеныя пласты грамадства.

*Усе гэтыя сілы рознай ступені дзеяздольнасці, але ўсе яны -- актыў беларускай мовы.*

**Сілы і сродкі. Варыянт Б.**

*Выпадаюць пункты 15 - 19.*

**Сілы і сродкі. Варыянт В.**

*З'яўляецца магутны пункт "Беларуская дзяржава"*

*Выпадаюць пункты 15 - 20.*

**4. Супраціўнікі і перашкоды.**

*У Праекце гэты пункт дыпламатычна апушчаны. Разам з тым, калі б не было супраціўнікаў і перашкодаў, у беларускай мовы пасля старту пачатку 90-х гадоў ужо не было б такіх сур'ёзных праблемаў. Тут мы маем тыя ж тры варыянты. Паспрабуем назваць іх таксама дыпламатычна.*

**Супраціўнікі і перашкоды. Варыянт А.**

1. Антыбеларуская частка ўладных структураў у Рэспубліцы Беларусь.
2. Антыбеларускія імперскія сілы за межамі Беларусі.
3. Калабаранцкія колы беларускага грамадства.
4. Неіснаванне на побытавым узроўні беларускай нацыянальнай ідэі.
5. Агітацыйна і арганізацыйна арганізаваная прапаганда бесперспектыўнасці беларускай мовы.
6. Адсутнасць адзінай беларускай царквы.
7. Магутнае развіццё рускамоўнай інфармацыйнай прасторы.
8. Засілле рускамоўнай друкаванай прадукцыі на беларускім рынку.
9. Глабальная рускамоўнасць навуковых, вытворчых, сервісных працэсаў.
10. Інерцыйнасць зменаў моўных звычак.

**Супраціўнікі і перашкоды. Варыянт Б.**

*Да лагера супраціўнікаў беларускай мовы далучацца ўсе рускамоўныя дэмакратычныя структуры.*

**Супраціўнікі і перашкоды. Варыянт Б.**

*З лагера супраціўнікаў беларускай мовы выпадзе магутная сіла дзяржавы.*

**5. Этапы і кірункі дзейнасці.**

*Дзейнасць па дасягненні прамежкавых мэтаў развіцця беларускай мовы падзяляецца на два этапы:*

*1) да дасягнення крытычнай пераваі;*

*2) пасля дасягнення крытычнай пераваі.*

*Кірункі дзейнасці вызначаюцца зыходным становішчам, канчатковымі і прамежкавымі задачамі.*

*Частка кірункаў (3.Фармаванне станоўчага стаўлення да беларускай мовы. 4. Павелічэнне колькасці носьбітаў беларускай мовы. 7. Беларусізацыя сістэмы адукацыі. 8. Беларусізацыя СМІ. 12. Беларусізацыя грамадства.) падняты ў Праекце. Разам з тым, як відно, вельмі шмат кірункаў не разгледжана.*

*Не разгледжаны кірункі дзейнасці па варыянтах Б і В. А яны будуць карэнным чынам адрозніваца.*

*Само сабой, што адсутнічаюць планы мерапрыемстваў па рэалізацыі кожнага з кірункаў. Адпаведна адсутнічаюць бізнес-планы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. Адпаведна адсутнічаюць і самі сродкі. Але здабыча сродкаў -- гэта ўжо іншая стратэгія.*

*Не распісаны чаканыя вынікі пасля рэалізацыі кожнага кірунку.*

*Такім чынам, калі Рабочая група акажацца здольнай сістэматызаваць напрацоўкі, то на з'езд ТБМ можа быць вынесена толькі канцэпцыя Старатэгіі з далейшай прапрацоўкай дэталяў новай Рэспубліканскай Радай ТБМ.*





АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫ ФОРУМ — ТРЭЦІ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

# "БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСЫ НА МЯЖЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ"

*Актуальнасць*

Стаўленне Беларусі, як дэмакратычнай дзяржавы, магчыма пры ўмове гарманічнага спалучэння асноўных грамадскіх чыннікаў і ключавых сацыяльных кампанентаў, да якіх, бясспрэчна, належыць беларуская дыяспара. Але ў сучаснай Беларусі патэнцыял эміграцыі практычна не выкарыстоўваецца. Між тым, больш за чвэрць беларускай нацыі (звыш 3 мільёнаў) стала жыве ў 73 краінах свету. Беларуская дыяспара актыўнаў будуе сваё грамадскае жыццё ў замежжы: адкрывае беларускія школы і тэатры, цэрквы і музеі, выдае газеты і часопісы, арганізоўвае ўласны бізнес, стварае і ўзначальвае грамадскія арганізацыі. Прадстаўнікі беларускай дыяспары ўзбагачаюць сваімі дасягненнямі культуру і мастацтвы, навуку і палітыку іншых краін.

Беларусы замежжа – неад'емная частка нацыі, велізарны чалавечы рэсурс, які толькі пры сістэмным і ўзважаным дзяржаўным падыходзе ператвараецца ў найважнейшы фактар імклівага эканамічнага і духоўнага ўздыму Беларусі, забяспечвае рост міжнароднага аўтарытэту, прэстыжу нашай краіны ў свеце. Беларуская дыяспара – важная складовая сіла станаўлення ў Беларусі дэмакратычных інстытуцый, усталявання законнасці і прававых дачыненняў ва ўсіх сферах, базавы кампанент у справе наладжвання эфектыўных міжнародных і міждзяржаўных адносінаў, надзейны інструмент фармавання ў нашай краіне грамадзянскай супольнасці.

Вельмі значны патэнцыял эміграцыі ў гаспадарча-эканамічных сферах, такіх, як знешнегандлёвая дзейнасць, развіццё экспарту беларускай прадукцыі, інвенстыцыйныя праекты, у перадачы ў Беларусь новых тэхналогій (вытворчых, адукацыйных, інфармацыйных), ноў-хаў.

Нашыя суродзічы ў іншых краінах, пры належным стаўленні Беларускай дзяржавы, становяцца галоўным чыннікам наладжвання ўзаемавыгадных і плённых кантактаў паміж беларускімі ўрадавымі і няўрадавымі арганізацыямі з адпаведнымі ўстановамі іншых краінаў, міжнароднымі арганізацыямі.

Спецыфіка сённяшняй сітуацыі ў тым, што беларусы працягваюць масава пакідаць сваю Радзіму з-за эканамічных і палітычных прычынаў. У сувязі з гэтым Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", як арганізацыя беларусаў свету, лічыць актуальным правядзенне агульнанацыянальнага форуму – выдатнай магчымасці скансалідаваць магутнага патэнцыялу беларусаў у замежжы і беларусаў на Радзіме.

З'езд беларусаў свету – падзея агульнанацыянальнага маштабу, кульмінацыйны форум, на якім шырока абмяркоўваюцца найбольш значныя, лёсавызначальныя ў жыцці народа пытанні. Ён ужо стаўся найбольш прыдатнай пляцоўкай усталявання кантактаў і шматўзроўневага дыялогу паміж беларусамі розных краін і кантынентаў. Прынятыя на з'ездзе рашэнні, агучаныя адозвы і ўхвалы служаць арыенцірам, трывалым падмуркам нацыянальнай знітаванасці.

Скліканне Трэцяга з'езду беларусаў свету якраз цяпер, на рубяжы тысячагоддзяў, у неспрыяльны для нашага народа перыяд – справа выключна надзённая і выключна неабходная. Менавіта з'езд – найбольш эфектыўная інстытуцыянальная форма, самы дзейны інструмент, каб максімальна інтэграваць інтэлектуальную і духоўную моц нацыі, развязаць вострыя і балючыя грамадскія праблемы, згуртавацца вакол высокіх ідэй нацыянальнага адраджэння, дзяржаўнасці, незалежнасці.

*Мэта з'езду* – кансалідацыя беларускай нацыі, умацаванне беларускай грамадзянскай супольнасці, выяўленне ідэалаў, волі і чаканняў усіх беларусаў свету.

*Задачы з'езду:*

1) абмеркаванне праблемаў беларускай эміграцыі і шляхоў іх вырашэння;

2) усталяванне шчыльных шматузроўневых кантактаў і рознабаковых дачыненняў паміж беларусамі свету, беларускімі суполкамі і арганізацыямі;

3) дыскусіі аб перспектывах развіцця Беларусі;

4) выбары кіраўнічых органаў "Бацькаўшчыны".

На з'ездзе мяркуецца абмеркаваць надзённыя *праблемы* нацыянальнага жыцця:

- станаўленне Беларусі як суверэннай і незалежнай дзяржавы;
- нацыянальная гаспадарка і ўдзел дыяспары ў развіцці вонкавага гандлю;
- правы чалавека ў Беларусі;
- адраджэнне мовы, культуры і гістарычнай памяці беларускага народа, выхаванне нацыянальнай свядомасці беларусаў;
- стан друкаваных і электронных СМІ;
- праблемы моладзі;
- праблемы жанчын у грамадстве;
- пытанні міжканфесійных і міжэтнічных дачыненняў.

*Тэмы секцый, круглых сталоў, дыскусій:*

➢ Беларуская дыяспара: праблемы і перспектывы.

➢ Працэсы дэмакратычнай трансфармацыі беларускага грамадства:

1. Законнасць і дэмакратыя ў Беларусі;
2. Беларусь ў міждзяржаўных дачыненнях. Круглыя сталы: (Беларусь – ЗША; Беларусь – Расія; Беларусь – Польшча; Беларусь – Украіна, Беларусь – Літва; Беларусь – Латвія, Беларусь – Германія; Беларусь – Францыя; Беларусь – Чэхія).
3. Супрацоўніцтва Беларусі з міжнароднымі і рэгіянальнымі арганізацыямі.

➢ Развіццё гаспадаркі: роля беларускай дыяспары ў эканамічных пераўтварэннях у Беларусі.

➢ Правы чалавека ў Беларусі.

➢ Моладзь – будучыня Беларусі.

➢ Жанчына ў грамадскім жыцці.

➢ Беларуская культура, літаратура і мастацтва.

➢ Адукацыя на Радзіме і ў замежжы.

➢ Пытанні міжканфесійных і міжэтнічных дачыненняў.

➢ Стан друкаваных і электронных СМІ.

➢ Экалогія і выкарыстанне прыродных рэсурсаў.

*Прадстаўніцтва і ўдзельнікі.*

З'езд будзе праходзіць у адпаведнасці з прынцыпамі і Статутам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Дэлегатамі з'езду будуць людзі розных сацыяльных і прафесійных станаў, розных канфесій, розных палітычных плыняў і грамадскіх арганізацый дэмакратычнай арыентацыі.

*Аргкамітэт.*

У склад Аргкамітэту і Рабочай групы па падрыхтоўцы з'езду ўвайшлі сябры Вялікай рады "Бацькаўшчына", кіраўнікі беларускіх суполак, вядомыя грамадскія дзеячы Беларусі і замежжа.

*Чаканыя вынікі:*

У выніку правядзення з'езду будуць:

➢ усталяваныя шчыльныя сувязі паміж "Бацькаўшчынай", як галоўнай арганізацыяй у метраполіі, і беларускімі суполкамі ды таварыствамі ў замежжы;

➢ выпрацаваныя перспектыўныя кірункі шматузроўневага ўзаемадзеяння (эканамічнага, інфармацыйнага, культурніцкага) беларусаў на Радзіме і ў замежжы дзеля супольнай карысці;

➢ акрэслены шляхі дэмакратычнай трансфармацыі беларускага грамадства, станаўлення Беларусі, як паўнавартаснага суб'екту міжнароднага права;

➢ прапанаваны механізмы вырашэння актуальных праблемаў нацыянальнага жыцця ў галіне эканомікі, адукацыі, культуры ды інш.;

➢ падсумаваны вынікі працы за міжз'ездаўскі перыяд, перавыбраны кіраўнічыя органы арганізацыі.

*Старшыня Рабочай групы па падрыхтоўцы Трэцяга з'езду беларусаў свету:*
*Алена Макоўская*

*Сустаршыні Аргкамітэту:*
*Радзім Гарэцкі,*
*Вітаўт Кіпель,*
*Валеры Герасімаў,*
*Іван Саверчанка.*

# ТРЭБА ЕХАЦЬ НА ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ!

Згодна са статутам Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", зьезды беларусаў сьвету павінны адбывацца што чатыры гады. На сёлетні год прыпадае 3-ці гэткі зьезд. Пры цяперашнім станаўленьні ўраду Рэспублікі Беларусь да беларускае нацыянальнае справы, калі б чарговы зьезд ЗБС не адбыўся ў вызначаны статутам тэрмін, дык улады пачалі б рабіць большыя, чым дасюль, перашкоды ў далейшай працы згуртаваньня "Бацькаўшчына". Значыцца, сёлетні зьезд МУСІЦЬ адбыцца, і тэрмін яго ўжо вызначаны – 5-6 ліпеня (чацьвер-пятніца) 2001 году.

Людзі ў замежжы пытаюцца: Ці варта ехаць на той зьезд, калі ў Беларусі афіцыйныя чыноўнікі зьневажаюць нацыянальныя сьвятасьці, дыскрымінуюць беларускую мову, зацiскаюць свабоду, абражаюць патрыётаў, якія самаахвярна працуюць на грамадзкай, культурнай і палітычнай ніве? Вось жа пытаньне "Ці варта ехаць?" першнаперш нелягічнае й недарэчнае. Зьезд жа арганізуюць не дзяржаўныя чыноўнікі, а звычайныя грамадзяне-кіраўнікі ЗБС, патрыёты й абаронцы беларушчыны, якім даводзіцца працаваць у вельмі няспрыяльных абставінах. Ім якраз, як ніколі, патрэбная ўсякая дапамога – маральная й матар'яльная, каб зьезд адбыўся ды прайшоў пры максымальным удзеле з боку беларускай дыяспары, як з блізкага, гэтак і з далёкага замежжа. Удалае правядзеньне зьезду будзе красамоўным паказальнікам жывучасьці беларускае нацыянальнае культуры й сьвядомасьці, паказальнікам сілы нашага агульнага пачуцьця грамадскасьці й палітычнае дасьпеласьці.

Кожнаму, хто вагаецца, ехаць ці ня ехаць, варта было б паставіць сябе на месца арганізатараў зьезду, паспрабаваць уявіць, як "лёгка" ім, у аблічы безграшоўя й бясконцых перашкодаў ды цяжкасьцяў, рыхтаваць гэты зьезд.

Падарожжа на зьезд з замежжа – Злучаных Штатаў, Канады, Аўстраліі, Ангельшчыны, Бэльгіі, Францыі, Нямеччыны й г.д. – гэта ня толькі ўдзел у працы гэтага вялікага міжнароднага форуму беларусаў, а гэта найперш і найбольш – акт маральнай падтрымкі ўсім тым на Бацькаўшчыне, хто нясе на сабе цяжар абароны нацыянальных вартасьцяў перад нячуванай навалай на іх. Удзел у зьезьдзе – гэта духовая падтрымка ня толькі арганізатарам зьезду, а кожнаму беларусу, дзе б ён ні жыў, калі ён рупіцца пра разьвіцьцё беларускіх культурных вартасьцяў ды пра замацаваньне беларускае дзяржаўнасьці.

Карацей кажучы, удзел у 3-м зьезьдзе беларусаў сьвету – гэта маральны абавязак кожнага беларуса замежжа зрабіць на пачатку ліпеня падарожжа ў Менск, калі стан здароўя й фінансавыя магчымасьці дазваляюць на гэта. І той аргумэнт, што няма чаго туды ехаць, бо, бач, улада не падабаецца, ня мае пад сабой аніякага грунту. Наадварот, чым больш варожая беларушчыне ўлада, тым больш абавязак стаць поплеч тых, хто пад гэтай уладай жыве і, пакутуючы ад яе, бароніць свае спрадвечныя нацыянальныя каштоўнасьці.

Дык жа будзьма салідарнымі з тымі, хто бароніць сваё. А калі каторы з нас ня можа сам паехаць, дык хай дапамога матарыяльна справе правядзеньня зьезду, і гэткім чынам замацуе сваё імя патрыёта ў салідарнасьці з тымі, што знаходзяцца на перадавой лініі абароны й працы на карысьць Бацькаўшчыны.

*12 красавіка 2001 г.*
*Янка Запруднік*



# 29 красавіка Міколу Ермаловічу споўнілася б 80 гадоў

*Мікола Ермаловіч шырока вядомы ў нашай краіне, як выбітны даследчык старажытнай гісторыі Беларусі. Плён ягонай 40-гадовай працы ў кнігах – "Па слядах аднаго міфа", "Старажытная Беларусь", "Беларуская дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае". Першая – пабачыла свет у 1989-ым. А да таго, цягам 20-ці гадоў, перадавалася з рук у рукі, хадзіла ў народзе ў рукапісным варыянце пад назовам "Сто старонак". "Сто старонак" праўдзівай гісторыі Беларусі. Амаль невідушчы Мікола Ермаловіч павёў за сабою відушчых, якім засціла вочы афіцыйная псеўдагісторыя.*

*"Старажытная Беларусь" упершыню ўбачыла свет у 1988 годзе праз часопіс "Маладосць", дзякуючы прынцыповай грамадзянскай пазіцыі галоўнага рэдактара Генрыха Далідовіча. Сваёй апошняй кнігі – грунтоўнага даследавання ад Вялікага Княства Літоўскага да падзелу Рэчы Паспалітай – аўтар не пабачыў, не дажыў да гэтай падзеі ўсяго тры месяцы. Нечакана для ўсіх быў збіты машынай на пешаходным, добра вядомым яму, пераходзе непадалёк ад дома, дзе жыў.*

*Сёння шырыцца ў грамадстве зацікаўленне гісторыяй Беларусі, расце попыт на кнігі Міколы Ермаловіча і пашана да асобы вучонага. Але рэдка хто ведае Міколу Іванавіча, як паэта, празаіка і крытыка, які пакінуў у спадчыну свае літаратурныя творы, гэткія ж небяспечныя для тагачаснага рэжыму, як і гістарычныя.*

*У інтэрвію газеце "Наша Ніва", якое было апублікавана за тыдзень да трагічнай смерці пісьменніка, ён распавёў, што ў 60-я гады выдаваў рукапісны часопіс "Падснежнік". Пазней, ужо 1975-76 гадах на падставе гэтых "Падснежнікаў" надрыхтаваў каля 50 нумароў "Гутарак". Гэтыя "Гутаркі" пашыраліся ў вузкім коле сяброў, якія і захавалі іх для нашчадкаў. Сёння ўпершыню ў "Нашым слове" два абразкі Міколы Ермаловіча "Таму, хто прачнуўся" і "Гісторыя аднаго паэта" са сховаў Аляксея Марачкіна. Гэтыя абразкі – яскравае сведчанне таго, што Мікола Іванавіч дбаў пра адраджэнне беларускай мовы і лічыў, што пісаць сваю гісторыю трэба толькі на роднай мове.*

*Ірына Ляксеева.*

## АБ УСІМ, ШТО БАЛІЦЬ

**№7 – 26.12.1975 г.,**
**Менск**

**Толькі гутарка ходзіць такая...**
**Я. Купала.**

### ГУТАРКА ТАМУ, ХТО ПРАЧНУЎСЯ

Дарагі сябра! Ты расплюшчыў ужо свае вочы і правільна глядзіш на свет. Але табе пакуль што страшна, ты сябе адчуваеш адзінокім, слабым і нават непатрэбным. Што ж, гэта зразумела. Заўсёды новае страшыць і выклікае няўпэўненасць. У некаторых з'яўляецца здрадлівая думка: "А навошта мне ісці па невядомай вузенькай сцяжынцы, калі можна падобна многім ісці па бітаму шырокаму гасцінцу". І чаго граху таіць, іншыя, зрабіўшы некалькі крокаў у невядомае, вяртаюцца назад і скіроўваюць на вытаптаны шлях.

Але ты не паддавайся гэтаму настрою, перамагай яго.

Найперш ты павінен заўсёды памятаць, што жывеш на сваёй зямлі, што ніхто іншы, а ты – гаспадар яе. Калі ты ніколі пра гэта не будзеш забывацца, то заўсёды будзеш упэўнены ў сваёй справе.

Ведай таксама, што ніхто не прынясе шчасця, дабра і парадку тваёй радзіме, апроч цябе, і таму бяры лёс сваёй радзімы ў свае рукі.

Абудзіўся сам – абуджай другіх да свядомага нацыянальнага жыцця. Калі ты хоць аднаго чалавека далучыш да патрыятычнай работы – зробіш вялікую справу. А зрабіць ты можаш куды болей.

Ніколі не выракайся роднай мовы, тым болей, жывучы на радзіме. Заўсёды вусна і пісьмова ўжывай яе, змагайся за яе. Ведай, што той, хто прапаведуе вывучэнне роднай мовы, сам ад сваёй не толькі не выракаецца, але і навязвае яшчэ яе іншым.

Цвёрда запамятай, што выратаванне тваёй радзімы – у яе волі і незалежнасці. Таму змагаючыся за яе волю і незалежнасць, ты змагаешся за яе будучыню.

Самае найбольшае тваё багацце – Радзіма. Калі ты яго страціш, зробішся і сам жабраком і жабрацтва перадасі ў спадчыну сваім дзецям. Таму ўсё сваё жыццё аддай Радзіме. Кожнай сваёй думкай будзь з ёю, кожнае слова – у абарону яе, кожную сваю справу – на карысць яе. Хай кожны крок твой будзе крокам тваёй Радзімы да волі!

У страшэнны час ты жывеш, у час беспрасветнай начы. Мы кругом абрабаваны. Усё наша ў чужых руках. Усё стала не нашым. Пазбаўленыя ўсяго, бяспраўныя нявольнікі і парабкі бяздушнай казны, мы асуджаны на мізэрнае існаванне. Мы не ведаем, калі скончыцца гэтая жудасная ноч. Ва ўсякім выпадку, прасвету пакуль няма.

Але калі сёння немагчыма яшчэ вызваліць ад ланцугоў свае рукі, то вызваліць свае душы мы можам ужо сёння. Калі сёння нельга вырваць з чужых рук нашы багацці, то няхай нашы сэрцы вызваляюцца ад страху перад пачварнай сілай улады, хай розум наш скідае з сябе ланцугі хлусні, якія абблыталі яго. Няхай жа ў Новым Годзе ўзнікаюць вольныя песні, вольныя думкі і вольныя словы. Вядома, гэта далёка не ўсё, але з гэтага пачынаецца заўсёды сапраўдная ВОЛЯ!

*Казаў Сымон Беларус.*

## АБ УСІМ, ШТО БАЛІЦЬ

**№ 38 (45) – 17.IX.1976 г.**
**Менск**

**Толькі гутарка ходзіць такая...**
**Я. Купала**

### ГУТАРКА
### ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПАЭТА

Вучыўся студэнт на філфаку. І адначасова складаў вершы. Апавяў ён у іх радзімы куток, дзе прайшло яго басаногае, але такое незабыўнае дзяцінства, славіў сваю родную мову, без якой ён не ўяўляў сабе жыцця, кляўся ў адданасці зямлі сваіх продкаў. Праўда, пасля заканчэння вучобы ён чамусьці не паехаў туды, дзе так моцна білі крыніцы яго натхнення. Можа прычынай гэтаму было тое, што ён к гэтаму часу ажаніўся са сваёй аднакурсніцай. Бацькі яе жылі тут жа ў сталіцы, і малады паэт разам з жонкай набыў гатовую кватэру, аўтарытэтнага цесця, энергічную цешчу і выгодную пасаду.

Але толькі пасяліўся ён на новым месцы і сказаў некалькі слоў на сваёй роднай мове, як яму адразу заўважылі, што ў іх сям'і не прынята так гаварыць, і малады паэт вымушаны быў скарыцца. Вельмі ж была ўжо ўтульнай кватэра і не хацелася яе спакойнае жыццё азмрочваць сваркай. Праўда, усё ж не прайшло без вынікаў. Паэт напісаў верш, у якім былі словы: "О, як я люблю цябе, роднае слова, гатоў за цябе я ісці ў цяжкі бой!"

Нарадзіўся ў паэта сын, стаў падрастаць, і бацька неяк праспяваў яму родную калыханку. Але жонка і цешча адразу запярэчылі: "Наша дзіця не павінна ні разу больш чуць падобную песню!" І паэт іх больш не спяваў. Але адразу ж напісаў верш "Хіба даражэй што за родную песню?"

Цераз нейкі час ён выдаў кніжачку дзіцячых вершаў і падарыў яе сыну ў дзень нараджэння. Але пільная цешча адразу вырвала кніжку з рук унука:

- Гэта не для цябе. Хай яе другія чытаюць.

І выкінула кніжку ў сметнік. Крыўдна было паэту ўсё гэта ўбачыць, і ён нават падумаў, а ці не лепш яму плюнуць на гэты сталічны рай паехаць туды, дзе прайшло яго басаногае дзяцінства. Але яго мімаволі прабралі дрыжыкі пры такой перспектыве. Ён добра адчуваў, што сэрца яго прырасло да асфальту і кватэры з усімі "удобствиями" і таму на гэты раз абмяжаваўся тым, што абагаціў родную паэзію вершам "Шануйце, дзеці, роднае слова". А калі сынок пайшоў у школу, то цешча і жонка адразу загадалі паэту: "Ідзі вызвалі хлопчыка ад гэтай сваёй мовы". Паэт, знясілены творчай працай, неяк механічна напісаў заяву і занёс яе ў школу. І гэта нязначная падзея скора была адзначана паэтычным шэдэўрам: "О, ты неўміручае, роднае слова!"

Неяк зайшоў паэт у кнігарню і бачыць: ляжаць яго новыя зборнікі на паліцах цэленькімі, бо ніхто іх не бярэ. А тут увайшлі яшчэ двое маладых людзей, відаць, студэнтаў, узглянулі на паэтавы кніжкі, і адзін з іх кажа: "А гэты ўсё пра любоў да роднага піша, а дома перад цешчай баіцца хоць адно слова роднае сказаць".

Сорамна стала паэту. Пайшоў напіўся і вырашыў болей не пісаць. Пра гэта і дома ва ўвесь голас сказаў. Але цешча адразу яго асекла: "А что тебе до того, что твоих книжек не покупают и не читают. Деньги ведь тебе уплатили. Так какого тебе рожна еще нужно. Садись и пиши опять".

Паэт так і зрабіў. Сеў, і адразу з-пад яго пяра выліўся новы верш "Радзіма, твой загад я выканаць заўсёды рад". Так паэт нечакана атрымаў новы стымул для творчага гарэння.

*Казаў Сымон Беларус.*



**Ю. Малаш. Памяці М. Ермаловіча.**

## Пра вынік аднаго міфу

У № 8 "НС" ад 21.02.2001 г. надрукаваны артыкул М. Паляніча "Тэрміналагічныя выкрунтасы ды іх сутнасць" пра міф адзінага старажытнарускага народу, навязанага рускай гістарыяграфіяй.

Гэты міф і шэраг падобных іншых маюць на мэце пазбавіць беларусаў гістарычных каранёў і, такім чынам, спрыяць працэсу асіміляцыі.

Вынікам аднаго з такіх міфаў аб нібыта заваёве літоўскімі князямі славянскіх плямёнаў, дзядоў сучасных беларусаў, з'яўляецца ўспрыманне намі тэрміну "Літва" і ад яго вытворных, як нечага чужога, а не нашага старажытнага. Каб упэўніцца што гэты тэрмін нам не чужы, дастаткова гістарычныя звесткі аб паходжанні ліцьвінаў (беларусаў) дапоўніць працай М. Ермаловіча "Старажытная Беларусь" у якой ён акрэсліў этнічную тэрыторыю старажытнага балцкага племя Літвы. Гісторыкі розных плыняў, ад М. Ермаловіча да Л. Абэцэдарскага, лічаць што беларусы паходзяць, як ад прышлых славянскіх плямёнаў (дрыговічаў, крывічоў, радзімічаў), так і ад аўтахтонных балцкіх плямёнаў (яцьвягаў, літвы, латыголы, прусаў --дакладней часткі прусаў, якія ратуючыся ад крыжакоў, перасяліліся ў прынёманскі край). Усе гэтыя плямёны жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, часткова за яе межамі. М. Ермаловіч, вывучаючы летапісы XI-XIII стст. і матэрыялы па тапаніміцы, устанавіў што этнічная тэрыторыя старажытнай, або летапіснай Літвы знаходзілася амаль у цэнтры сучаснай Беларусі, паміж гарадамі Менскам і Новагародкам, Маладзечнам і Слонімам. Таму да нашых дзядоў з боку балцкіх плямёнаў трэба дадаць Літву, як бы каму гэта не падабалася. Мы ліцьвіны (беларусы), толькі мы і ніхто болей, з'яўляемся нашчадкамі спадчыны нашых дзядоў, як са сла-вянскага так і з балцкага боку. Таму тэрмін "Літва" і ўсё што за ім стаіць – гэта таксама наша старажытная спадчына. І зусім не актуальнымі становяцца намаганні міфатворцаў. Ці заваёўваў хто каго з нашых дзядоў, ці не – усё гэта наша ўнутраная, так бы мовіць, сямейная справа.

Так сталася, што айцы БНР назвалі нашу дзяржаву Беларусь, а не Літва (магчыма М. Ермаловічу трэба было нарадзіцца раней). Гэта скарыстала Жамойць. Назваўшыся Летувай, яна тым самым падмацавала свае прэтэнзіі на нашу гістарычную спадчыну. Але тут у беларусаў ёсць шанец. Гэты шанец дае нам агрэсіўная жамойцкая граматыка, якая ўласнае імя Літва перабіла на свой капыл у Летуву. Літва і Летува фармальна розныя словы. Таму хай Жамойць будзе Летувой, а Літва застанецца нашым беларускім паняццем.

Справа за тым, каб усе беларусы ўсвядомілі гэта новае (забытае старое) значэнне тэрміну "Літва", каб у працах па гісторыі, у падручніках і ў іншай літаратуры нідзе і ніколі ў дачыненні да Жамойці (Летувы) не ўжывалі тэрмін "Літва" і, такім чынам, не аддавалі нашу гістарычную спадчыну суседняму народу. Гэта па-першае. Па-другое, даволі часта пры апісанні падзей сярэднявечча, некаторыя аўтары называюць нашу дзяржаву Беларуссю, хоць такога тэрміну ў тыя часы не існавала. Не трэба нам саромецца ўжываць у такіх выпадках тэрмін "Літва". Зразумела, ўжыванне тэрміну "Беларусь" ідзе і ад неўспрымання патэнцыяльнымі чытачамі тэрміну "Літва" як свайго. Але гэтую праблему можна вырашыць адпаведным каментарам, ці іншым чынам. Хай сабе тыя, хто не жадае адмаўляцца ад хлуслівых міфаў, называюць Жамойць Літвой, а Вільню Вільнюсам. Нам важна каб тэрмін "Літва" замацоўваўся ў свядомасці народа як свой. Гэта паспрыяе стварэнню ў беларусаў трывалага гістарычнага падмурку, такога неабходнага для ўстойлівасці нацыі.

*А. Пухоўскі.*

# Евангельскія хрысціяне-баптысты і гісторыя Беларусі

Евангельскія хрысціяне-баптысты існуюць на тэрыторыі Беларусі ўжо амаль паўтара стагоддзя. І мала хто ведае, што гэтая хрысціянская плынь мае хоць не старажытную, але слаўную гісторыю. І скажу адразу, што яна зацікавіць толькі тых, хто мае ў сэрцы такія якасці, як любоў і літасць да свайго народу, да свайго краю, каму дарагое тое, што даў яму Бог.

Яшчэ будучы падлеткам, сорк год назад, наглядзеўшыся ўсялякага па тэлебачанні, начытаўшыся “Піянерскай праўды”, я прыбягаў да Малітоўнага дома, які знаходзіўся ў Менску каля плошчы 8-га Сакавіка, каб паглядзець на жывых фанатыкаў. Але з царквы выходзілі не пачвары, а сціпла апранутыя людзі з добрымі тварамі і ўсміхаліся мне, бо яны ведалі, чаму я на іх так глядзеў. Прайшло не адно дзесяцігоддзе, а перад маімі вачамі і да цяперашняга часу стаяць некаторыя твары – добрыя, прыемныя. І цяпер, будучы сталым вернікам, я ўпэўнены, што гэтыя людзі ў душы шкадавалі мяне, маленькую ахвяру камуністычнай ідэалогіі, і маліліся за мяне. Таму, выконваючы свой хрысціянскі абавязак, я расказваю вам, хто мы такія, як і што робім у Беларусі.

Евангельскія хрысціяне-баптысты з’явіліся ў Беларусі ў другой палове XIX ст. Гэта людзі, якія трымаюцца веры ў адзінага Жывога Бога ў трох асобах; Творцу ўсяго бачанага і нябачанага, і шануюць Слова Божае – Біблію, як Боскае адкрыццё. Слова “баптыст” паходзіць ад грэчаскага слова “бапцізю”, што азначае хрышчу, хрышчаны на веры. Хрышчэнне прымаюць юнакі і дзяўчаты, іншыя дарослыя, якія абяцаюць перад усёй царквой жыць і працаваць, як вучыў Хрыстос. Дзеці ж толькі дабраслаўляюцца святарамі.

Евангельскія хрысціяне-баптысты вызнаюць усеагульнае свяшчэнства. Паколькі ў Новым Запавеце ўстаноўлены званні, то і тут ёсць епіскапы, прасвіцеры, дыяканы. Адзіным аўтарытэтам у пытаннях веры прызнаецца Біблія – Слова Божае. Асновай веравызнання служыць перакананне ў тым, што ў адносінах чалавека з Богам галоўным з’яўляецца вера ў Ісуса Хрыста як Ратавальніка і Госпада. Царква абвяшчаецца ўспрыемніцай духу, вучэння і жыцця Ісуса Хрыста і апольстальскай царквы. Евангельскія хрысціяне-баптысты прызнаюць, што да звароту да Бога, чалавек быў мёртвы духоўна – па сваіх грахах і злачынствах, але па блаславенню Боскаму ён атрымлівае новае жыццё. Гэта вера абапіраецца на сведчанні Дабравесця аб смерці і ўваскрэсенні Хрыста. Пра тое, што папярэднічала з’яўленню баптызму на нашай роднай зямлі, сведчыць гісторыя. На працягу вякоў існаваў прыгнёт чалавека чалавекам. Яркім прыкладам служыць прыгоннае права. Аб якой веры магла ісці гаворка, калі людзей прадавалі, як жывёлу?! Як мог чалавек нешта ведаць добрае пра Бога, калі казанне ў царкве адбывалася на незразумелай мове. Як можна было лічыць Расійскую імперыю святой, у якую ўваходзіла Беларусь, калі вакол былі галеча, бяспраўе і цяжкая праца, калі быў адкрыты шлях да Бахуса, розных чарадзеяў. Але ўсюды знаходзіліся людзі, якія шукалі праўды Боскай. Беларускія сяляне ў пошуках лепшай долі ад’язджалі тады на заробкі на поўдзень Украіны, у Расію і сустракаліся там з людзьмі, якія добра ведалі Дабравесце і лічылі за шчасце падзяліцца са сваімі новымі знаёмымі Словам Божым. І чалавек з жабрацкім лёсам з радасцю ўспрымаў Дабравесце як гаючую крыніцу, бо аб гэтым ён раней марыў. А вярнуўшыся на Радзіму, тыя людзі прапаведалі ўжо на сваёй зямлі. Так баптызм нібы адрадзіўся на зямлі беларускай.

Вёска Уць цяперашняга Добрушскага раёна Гомельскай вобласці лічыцца месцам, дзе ўпершыню ў Беларусі людзі пачулі Дабравесце, прынялі яго і згуртаваліся ў царкву. У другой палове 80-х гг. XIX ст. Дабравесце прыйшло ў Віцебскую і Менскую губерні, потым – на Гарадзеншчыну і Берасцейшчыну. Але не захаваліся архівы , якія маглі нам раскрыць старонкі гісторыі. Засталіся ў памяці толькі некаторыя імёны прасвіцераў. Усё астатняе знішчалі мясцовыя ўлады, якія абвінавачвалі евангельскіх хрысціян-баптыстаў у ерасі, абвяшчалі іх сектантамі і баламутамі. І тут няма чаму здзіўляцца. Успомнім гісторыю. Калі першыя хрысціяне неслі слова праўды, то імператар Нерон рабіў з вернікаў факелы. Калі Ян Златавуст у сваёй пропаведзі закрануў царскіх асоб, быў пазбаўлены сану і высланы. А колькі пакут вытрымалі перакладчыкі багаслоўскіх кніг на славянскую мову браты Кірыла і Мяфодзій?! Колькі людзей абвінавачвалі ў ерасі, а потым і палілі, і тапілі. Нават перакладзеныя нашым слаўным продкам Францішкам Скарынам кнігі Бібліі прыйшліся не да спадобы афіцыйнай царкве. Прыгадаем таксама, што, калі ў 1535 г. з’явілася першая пратэстанцкая суполка ў горадзе Слуцку, то яе падтрымалі і беларускія магнаты Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Тышкевічы. Але пасля ўтварэння ўніяцкай царквы ў 1596 г. на саборы ў Берасці супраць пратэстантаў пачаліся ганенні: забойствы, падпалы, пагромы, і амаль уся пратэстанцкая плынь на доўгі час была знішчана.

У 1905 г. суполкі баптыстаў узніклі ў Менску і ў Пружанах на Берасцейшчыне. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, цэрквы раслі. У Віцебску носьбіты Дабравесця прымалі ўдзел у рабоце грамады цвярозасці “Сіні крыж”, якая аб’яднала і католікаў, і праваслаўных, і лютэран. На Гомельшчыне евангельскія хрысціяне распаўсюджвалі сярод мясцовага насельніцтва Новы Запавет, часопісы “Утренняя звезда”, “Нива” і “Гость”. У Менску кнігаdebug шам стаў брат Герасім Андрухоў, які за гэта быў асуджаны царскімі ўладамі. А пасвіцерам у мясцовай царкве быў брат Чабярук, пра якога захавалася добрая памяць.

Пасля рэвалюцыі 1917 г. баптыстаў некаторы час не чапалі. З’явіліся новыя цэрквы, новыя імёны духоўна адроджаных людзей. Адукаваным чалавекам быў Лука Мікалаевіч Дзекуць-Малей, які нарадзіўся ў Слоніме. Ён пазнаёміўся з евангельскімі хрысціянамі-баптыстамі ў час службы ў арміі. Прыняў святое воднае хрышчэнне ў мароз 1 студзеня 1912 г., у горадзе Беластоку ў плыні Супраслі. За пропаведзь Дабравесця ён быў арыштаваны, прывязаны да сядла каня. Так вялі яго пешшу 170 кіламетраў да турмы, а потым валаклі на вяроўцы па вуліцах Санкт-Пецярбурга. Гэты чалавек быў вядомы, як беларускі патрыёт, настаўнік і арганізатар моладзі. Адоранага юнака чакала цудоўная кар’ера педагога і адміністратара. Ён быў надзвычайны прамоўца, нядрэнны скрыпач. Лёгка знаходзіў кантакт з любым чалавекам. Але Хрыстос перамог у яго сэрцы. Дзекуць-Малей арганізаваў у Горадні царкву, але яго разам з сябрамі выслалі польскія ўлады. Потым ён арганізаваў не адну царкву на Берасцейшчыне, а ў 1927 г. у Лодзі пераклаў Новы Запавет на беларускую мову. У 1940 г. савецкія ўлады арыштавалі Дзекуця-Малея за пропаведзі Дабравесця ў Берасці і пасадзілі ў турму, а сям’ю выслалі ў Казахстан. У час вайны немцы адкрылі браму турмы, і зняволеныя выйшлі на свабоду. Пасля вайны Дзекуць-Малей застаўся ў Польшчы, да яго потым прыехала сям’я. Памёр і пахаваны ў Гданьску. Увайшло ў гісторыю брацтва таксама імя Барыса Сцяпанавіча Чаберука. Ён быў добры пастыр для сваёй царквы, карыстаўся любоўю ўсіх яе членаў. Яго асудзілі на тры гады за “сувязь з замежжам”, а пасля другога арышту яго, напэўна, расстралялі. Шмат братоў і сясцёр было арыштавана. У Менску апошнія 10 сясцёр дамоў не вярнуліся, у іх ліку была родная сястра Чаберука Ліза. А з 1937 г. баптысцкая царква ў БССР была забаронена.

Павел Ігнатавіч Лагута прыняў Хрыста ў сэрцы ў час грамадзянскай вайны, калі служыў у шпіталі для тыфозных хворых. Гэта быў вялікі маліцвеннік, які абышоў пешшу ўсё Паволжа, прапаведаючы слова Божае. Быў дыяканам Менскай царквы, а затым атрымаў пяць гадоў Карлага. У 1941 г. ён сабраў у Менску былых вернікаў і дабіўся ў нямецкіх уладаў адкрыцця царквы на Нямізе, каб дапамагаць габрэям у гета. З ім быў таксама браты Антон Мітрафанавіч Кяцко, Уладзімір Якаўлевіч Капатуш, вядомы цяпер у свеце аўтар хрысціянскіх кніг. Гэтыя хрысціяне атрымалі дазвол, што было нялёгка, сабралі дзяцей у дзіцячы дом. Ездзілі па наваколлю, выпрошвалі для іх харчы. Ганна і Марыя Кананавіч былі кухарамі ў дзіцячым доме. Яны трымалі кароў і насілі малако дзецям. І Бог быў разам з імі – ніводзін немец не адабраў малако. Вялікай рызыцы падвяргаліся гэтыя хрысціяне, бо ў доме былі і габрэйскія дзеці, якіх хавалі. І ў час набажэнства на Нямізе ў царкву прыходзілі галодныя габрэйскія дзеці, якіх вернікі кармілі. І вельмі цікава, што сюды прыходзілі таксама маліцца немцы-лютаране, і сярод іх быў нават маёр інтэнданцкай службы. Яны прыносілі хлеб, ведаючы для каго ён, і здрады не было.

Але немцы не драмалі, яны сачылі за кіраўнікамі. Павел Ігнатавіч вымушаны быў пайсці ў партызаны, бо свае людзі ва ўправе паспелі яго папярэдзіць. Ён цішком выйшаў з дому, як быццам у госці, з жонкай і дзецьмі, нічога не ўзяў з сабой. А на наступны дзень немцы прыехалі яго арыштоўваць… Партызанскі камандзір адразу даверыў Лагуце ўсю гаспадарку і шпіталь, што былі ў аддзеле. А некаторыя партызаны цішком прыходзілі да Паўла Ігнатавіча і, каб ніхто не чуў, прасілі памаліцца за іх, што той і рабіў.

Пасля вайны ўрад “прыгадаў” працу вернікам: Кяцко атрымаў 10 гадоў лагеру, а Капатуш пазней – 25 гадоў, нягледзячы на тое, што быў у нямецкім канцлагеры і служыў потым у Савецкай арміі. Пасля смерці Сталіна гэтыя людзі вярнуліся дамоў. Капатуш быў рэабілітаваны ў 1978 г., але яго ўсё ж тройчы звальнялі з работы, таму што артыкул у яго быў “за антысавецкую прапаганду”. Яму было забаронена прапаведаваць у царкве.

Доўга будуць памятаць жыхары вёскі Вялікі Рудзец Кобрынскага раёна Берасцейскай вобласці Івана Аляксандравіча Фірасюка, які ў час вайны выратаваў усю вёску. Калі людзі хаваліся ў лесе ў зямлянках, немцы знайшлі іх. Жыхары пачулі нямецкую мову, але баяліся выйсці і чакалі, што немцы іх закідаюць гранатамі. Ведаючы гэта, Іван Аляксандравіч выйшаў з зямлянкі, ускінуў галаву да неба, выцягнуў да яго рукі і пачаў маліцца. У час малітвы ён заклікаў людзей выходзіць з зямлянак з паднятымі ўгору рукамі. І немцы зразумелі, што гэта не партызаны. Людзей калонай павялі на станцыю. Там мужчын і жанчын памясцілі ў барак, чакалі цягніка. Іван Аляксандравіч прапанаваў усім спяваць з ім хрысціянскія гімны і адначасова капаць падкоп пад сцяну, каб уцячы ў лес. Потым яны даведаліся, што іх бы ўсіх расстралялі б… 80-годдзе Івана Аляксандравіча святкавалі ўсёй вёскай у калгасным клубе.

У 1944 г. адбылося аб’яднанне цэркваў саюзаў евангельскіх хрысціян, баптыстаў Саюза цэркваў Хрыстовых і хрысціян веры евангельскай у Саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў. У часы Хрушчова, асабліва пачынаючы з 60-х гг., баптыстаў зноў арыштоўвалі, катавалі маральна і фізічна, патрабуючы толькі аднаго – адрачэння ад Бога. Слабыя здаваліся, цвёрдыя вытрымлівалі, і так працягвалася да другой паловы 80-х гг. Наша царква ганарыцца прозвішчамі і тых, хто перайшоў у свет іншы, і тых, хто працуе цяпер, асабліва дынастый Абраўцоў, Рачкоўскіх, Фірасюкоў, Падрэзаў, Трубчыкаў. Дык няхай жа будзе праслаўлены Вялікі Бог за цяжкі шлях, але шлях – да Сябе.

*Яўген Максімаў, Менск.*



**На званіцы Свята-Уваскрэсенскага сабора ў Крычаве звоніць звон, які быў адліты ў 1748 годзе. Захаваў яго для нашчадкаў краязнавец, журналіст і пісьменнік Міхаіл Фёдаравіч Мельнікаў.**

*Фота Валерыя Бысова, БелТА.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 23. 04. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 968.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 242 руб., 3 мес.- 726 руб.
***Кошт у розніцу:*** 70 руб.